**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 51 (767) 18 снежня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

# Вольнае Глыбокае

*“Вольнаму Глыбокаму” – 20 гадоў!*

*Фота Леаніда Юрыка.*



■ Кастусь Шыталь

# “Вольнае Глыбокае” пакрысе адкрывала мне новы погляд на свет

З газетай “Вольнае Глыбокае” я пазнаёміўся больш як дзесяць год таму. Памятаю, вясной 2003 года ў прыватнай краме ў Крулеўшчыне, якую месцачкоўцы чамусьці празвалі “МакДональдс”, з’явіўся стос свежай газеты, пра якую я дагэтуль ніколі не чуў.

На першай паласе было фота Юліі Букі і вялікі загаловак: “Дэмакратка ўсётакі перамагла”. Якраз былі выбары ў мясцовыя саветы і Юлія Бука з Валодзькава, сябра сацыял-дэмакратычнай партыі, прайшла ў дэпутаты сельсавета, дзе потым бараніла правы мясцовых бабулек.

Першы нумар не падаўся мне цікавым. Аднак я штотыдня выпрошваў у маці грошы на газету. Была ў мяне яшчэ з малодшых класаў школы звычка – збіраць усё, што нейкім чынам датычыла майго рэгіёна. Неяк у чацвёртым класе перагартаў быў падшыўкі раённай газеты за пяць год, каб знайсці там некалькі артыкулаў са згадкамі пра Крулеўшчыну.

“Вольнае Глыбокае” пакрысе адкрывала мне новы погляд на свет. Яно сапраўды было вольным ад дзяржаўнай ідэалогіі, друкавала рэчы, якія не маглі друкаваць дзяржаўныя газеты. Пра перасьлед незалежнай прэсы, пра Грунвальдскую бітву і бел-чырвона-белы сцяг, пра малую вартасць калгасных “бітваў за ўраджай” ды стратнасць дзяржаўных прадпрыемстваў я даведаўся акурат з “Вольнага Глыбокага”.

Але найбольш уражвалі мяне краязнаўчыя артыкулы Уладзіміра Скрабатуна. Пра разбураную аўстэрыю і агароджу на Копцеўцы, пра Галубіцкую пушчу і Альгердаў шлях, пра Язэпа Драздовіча і Аўгена Жыхара. Скрабатун прадстаўляў Глыбокае і ваколіцы як поўны цікавостак і багаты на гістарычныя падзеі край – і тое рамантычнае ўспрыманне Глыбокага захавалася ў маёй свядомасці дасёння.

Аднойчы на школьных канікулах я ўзяўся напісаць артыкул у “Вольнае Глыбокае”. Я перагартаў сабраныя з розных крыніц звесткі аб гісторыі Крулеўшчыны, злучыў іх у адзін тэкст, яшчэ раз перапісаў ад рукі, даслаў у рэдакцыю. Праз тыдзень “Вольнае Глыбокае” выходзіць з анонсам на першай паласе: “Захапляльная гісторыя Круляўшчызны. Піша юны аўтар нашай газеты”. І – мой тэкст на цэлую паласу, дапоўнены фотаздымкамі і каментарамі Уладзіміра Скрабатуна.

Для мяне, вучня сёмага класа, такая ўвага з боку рэдакцыі “Вольнага Глыбокага” была і нечаканай і радаснай адначасова. Раней я пісаў у докшыцкую раёнку, дык там мае тэксты ляжалі па два месяцы перад публікацыяй, і рэдакцыя не дадавала да іх здымкі. У тым годзе я напісаў у “Вольнае Глыбокае” яшчэ адзін матэрыял на паласу – пра вёску Заборцы і мястэчка Параф’янава.

Налета, у восьмым класе, адправілі мяне са школы на рэгіянальную вучнёўскую канферэнцыю ў Глыбокае. Я падрыхтаваў даклад “Гісторыя чыгунак у паўночна-заходняй Беларусі”. Выступіў, далі мне другое месца (саступіў вучням Вітольда Ермалёнка з Мёраў – яны мелі добрага кіраўніка-настаўніка, а ў мяне не было ніякага). Атрымаў грамату, вышываны ручнік і “Доўгую дарогу дадому” Васіля Быкава ў падарунак.

Праз тыдзень выходзіць “Вольнае Глыбокае” з маім фотаздымкам. Уладзімір Скрабатун піша: “вельмі ўразіў даклад вучня Крулеўшчынскай школы…” Я зноў здзівіўся: даклад як даклад, проста кампіляцыя з дзясятка крыніцаў. Але Скрабатун разгледзеў мае здольнасці да гісторыі.

Пасля гэтага я наважыўся з Уладзімірам Скрабатуном пазнаёміцца. Прыязджаю да яго ў Глыбокае, у кабінет, дзе поўна розных папераў і кніг па гісторыі, ён мне дае ксеракопію карты Віленскага ваяводства 1926 года, старонку са статыстычных матэрыялаў Дзісненскага павета 1930 года. Гэта цяпер у Інтэрнэце даступныя тысячы старонак гістарычных крыніц, а тады не было такога.

Так, дзякуючы “Вольнаму Глыбокаму”, адбыўся пералом у маіх жыццёвых планах. Да таго часу я марыў працаваць на чыгунцы – пасля школы ісці вучыцца на памочніка машыніста ці на дзяжурнага па станцыі. Ды раптам убачыў, што ёсць такая цікавая навука як гісторыя. Што мінуўшчыну свайго краю можна даследваць і што людзям гэта будзе цікава.

Праз некалькі год я стаў студэнтам-гісторыкам. Не давучыўся, але то ўжо мае асабістыя праблемы перашкодзілі. Кінуўшы вучобу, я пачаў працаваць журналістам. Тут прыдаўся і досвед маіх першых публікацый у “Вольным Глыбокім”, і тое, што я ведаў пра рэгіён ад іншых карэспандэнтаў газеты.

“Вольнае Глыбокае” дапамагло мне ўсвядоміць сябе беларусам. Ні бацькі, што выраслі ў Савецкім Саюзе, ні школьныя настаўнікі, якія таксама ў СССР-ы гадаваліся, не маглі даць мне нацыянальнага выхавання. А “Вольнае Глыбокае” навучыла мяне шанаваць нашу мову, гісторыю, культуру, разумець нашыя нацыянальныя ідэі і мэты. Размаўляць па-беларуску я пачаў пад уплывам “Вольнага Глыбокага”.

Так што дзякуй Уладзіміру Скрабатуну і ўсёй рэдакцыі “Вольнага Глыбокага”. Не ведаю, кім і якім бы я быў, калі б не “Вольнае Глыбокае”, але сустрэча з гэтай газетай была адной з найважнейшых падзей майго жыцця. Хай “Вольнае Глыбокае” выдаецца яшчэ не адно дзесяцігоддзе!



**Кастусь Шыталь, краязнаўца, журналіст, адзін са сталых аўтараў “Вольнага Глыбокага”**

# Вольнаму Глыбокаму – 20 год!

■ Генадзь Плавінскі

Шаноўны Уладзімір Скрабатун! З юбілеем твайго дзівоснага дзіця для нашага краю! Ты яго нарадзіў 20 год таму. І як вясновы ручаёк тваё дзіця набірае сілу. Колькі шыкоўных краязнаўчых матэрыялаў пра мінуўшчыну Глыбокага і яго ваколіц пабачылі свет у тваёй газеце. Без іх мы, твае чытачы, былі б зашмат бяднейшымі. Ты, спадар Уладзімір, вывеў мяне 17 год таму на цікавейшую дарогу, дарогу краязнаўства. Пахвалёны Отан Гедэман каліс сказаў маладзёнам, каб узыходзілі на дарогу пазнання роднай старонкі. Калі вы ступіце на яе, будзеце з захапленнем крочыць па ёй усё сваё жыццё. І я, ужо з серабром на чупрыне, крочу па гэтай дарожцы.

“Вольнае Глыбокае” цікава прадпрымальнікам. Але гэты тыднёвік так удала падае навіны азёрнага краю, Беларусі, свету, што можна прачытаць толькі гэтыя падзеі і будзеш шырока інфармаваным грамадзянінам.

Мацуйся, Галоўны рэдактар! Добрага спадарожнага ветру твайму вольнаму ветразю! Было б добра, каб у Новым годзе ты пасля нястомнай працы адпачыў у добрым санаторыі. А не так, як пажартавала твая палавінка:

– А ён нядаўна цэлы тыдзень адпачываў у бальніцы.



**Генадзь Плавінскі, даследчык гісторыі роду Корсакаў, адзін з нашых аўтараў. На здымку – в. Анінск, Себежскі р-н, руіны палаца Корсакаў.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Паважаныя жыхары горада і раёна, набліжаюцца Навагоднія святы, натуральным і неад’емным атрыбутам якіх стане елка. Хтосьці ўпрыгожыць свой дом штучнай прыгажуняй, але большасць і не ўяўляе сапраўднага Новага года без паху iглiцы ў сваім жыллі. Дрэнна толькі, калі да паху iглiцы прымешваецца пах дыму.**

# Асцярожна, свята!



*Фота Ул. Скрабатуна.*

Памятайце! Незалежна ад таго, штучная елка ці сапраўдная, не варта ўпрыгожваць яе цацкамі з цэлулоідных і лёгказгаральных матэрыялаў. Не ўсталёўвайце дрэва побач прыбораў ацяплення. Устрымайцеся ад запальвання бенгальскіх агнёў у непасрэднай блізкасці ад елкі, не спяшайцеся ўпрыгожыць яе галіны канфеці пры дапамозе хлопавак. Не набывайце электрагірлянды на рынку, не пераканаўшыся ў наяўнасці ліцэнзіі на дадзены від прадукцыі. І ні ў якім разе не выкарыстоўвайце петарды. Апёкі і адарваныя пальцы святочнага настрою нікому не дадавалі.

Выкананне гэтых правіл забяспечыць Вашу бяспеку. Зрабіце нам падарунак!

***Інспекцыя нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага РАНС.***

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 18.12.14 | | | | Пятніца 19.12.14 | | | | Субота 20.12.14 | | | | Нядзеля 21.12.14 | | | | Пн.22. 12-.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | 0 | +1 | +2 | +4 | +6 | +8 | +7 | +6 | +4 | +4 | +2 | +1 | +1 | -1 | -2 | -1 | -3 | -1 |
| Ціск | 741 | 741 | 739 | 739 | 736 | 732 | 734 | 735 | 734 | 734 | 734 | 735 | 736 | 734 | 738 | 742 | 745 | 745 | 741 |
| Вільготнасць | 89 | 84 | 84 | 93 | 94 | 94 | 92 | 91 | 95 | 89 | 78 | 84 | 88 | 90 | 90 | 90 | 88 | 91 | 89 |
| Вецер м/сек | 5 | 5 | 6 | 6 | 5 | 6 | 5 | 4 | 3 | 5 | 6 | 5 | 5 | 5 | 8 | 3 | 4 | 3 | 7 |
| | З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | З | З | Пд-З | З | З | Пд-З | Пд-З | З | Пн-З | З | Пн-З | Пд-З | Пд |

## Дзень за днём

**У 2015 годзе рэальныя даходы насельніцтва могуць знізіцца ўслед за Расіяй, якую чакае рэцэсія. Беларусь у рамках ЕАЭС прымушаюць адмовіцца з РФ, Казахстанам і Арменіяй ад разлікаў у доларах і еўра. Каб выжыць, многім прадпрыемствам з арыентацыяй на РФ, трэба шукаць новыя рынкі збыту. У пачатку зімы павысіліся тарыфы на паслугі ЖКГ, падаражэлі харчаванне ў дзіцячых садках і праезд у грамадскім транспарце. У Беларусі створаць ЛПП для наркаманаў, за збыт наркотыкаў будуць судзіць і 14-гадовых. Беларусь выйшла на 46-е месца ў свеце па забяспечанасці насельніцтва легкавымі аўтамабілямі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Новы глава Еўрасаюза Дональд Туск дамовіўся з прэзідэнтам ЗША Баракам Абамай аб далейшых сумесных дзеяннях у падтрымку Украіны, аб санкцыях супраць РФ.

**Англія.** Былы агент КДБ Пуцін, як заявіў палітолаг М. Дзяшэўскі, выбраў шлях працяглага супрацьстаяння з Захадам і стаў для самой Расіі галоўным злом, бо РФ дэградуе.

**ЗША.** Прарывам у сусветнай касманаўтыцы стаў паспяховы запуск НАСА і прызямленне новага карабля "Арыён", прызначанага для далёкіх палётаў, у тым ліку на Марс.

**Расія.** З-за падзення сусветных цэн на нафту ў дзяржаўны бюджэт РФ з чэрвеня па кастрычнік недапаступіла 40 мільярдаў долараў, ВУП краіны аўтаматычна знізіўся на 2 %.

**Арменія.** З-за рэзкага падзення курса расійскай валюты ў краіне таксама аслабеў драм, адчувальна выраслі цэны на прадукты і іншыя тавары першай неабходнасці.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка заявіў, што бяспеку ў Еўропе і ва ўсім свеце можа забяспечыць толькі НАТА, украінцы будуць імкнуцца трапіць у гэты абарончы альянс.

**Францыя.** Міністр абароны Жан Ле Дрыан пацвердзіў, што краіна нікалі не перадасць Расіі верталётаносцы "Містраль", калі рускія прадоўжаць сваю агрэсію ва Украіне.

**Расія.** Экс-памочнік Б. Ельцына Георгій Сатараў заявіў, што ў Пуцін давёў за 15 гадоў эканоміку РФ да проста жахлівага трагічнага стану, нічога ў яго не атрымаецца.

**Малдова.** З невялікай перавагай на парламенцкіх выбарах перамаглі прыхільнікі еўрапейскага выбару, але яшчэ шмат малдаван сімпатызуюць прарасійскім партыям.

**Літва.** Прэзідэнт кампаніі Hansen-Балтыя М. Візгаіціс заявіў, што беларуская малочная прадукцыя не ўступае па якасці еўрапейскай, усе прэтэнзіі Расіі да яе надуманыя.

**Украіна.** Еўрапейскі журналіст Томас Сейнер сфатаграваў быццам "гуманітарны" груз з Расіі ў Данбас: у машыне былі зброя, боепрыпасы, ваенная амуніцыя, сродкі сувязі.

**Кітай.** Былога грознага міністра грамадскай бяспекі КНР Чжоу Юнкана арыштавалі па абвінавачванні ў карупцыі і выключылі з кампартыі, пад следствам шмат калег, радні.

**Расія.** На працягу паўсутак у сталіцы Чачні Грозным працягваліся баявыя дзеянні, выгарэў Дом друку і школа № 20, страты федэралаў былі большыя, чым у баевікоў.

**Украіна.** Пераможца расійскага конкурсу "Фабрыка зорак" і ўдзельніца ад РФ на "Еўрабачанні" ўкраінская спявачка Анастасія Прыходзька адмовілася ад яе узнагарод.

**Швейцарыя.** Саюз еўрапейскіх футбольных асацыяцый (УЕФА) забараніў клубам Крыма выступаць з 1 студзеня 2015 года ў чэмпіянаце Расіі па футболе.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** З улікам крызіснай сітуацыі ў Расіі, як заявіў вядомы эканаміст Г. Грыц, у 2015 годзе становішча ў беларускіх прадпрыемстваў-экспарцёраў у РФ будзе няпростым.

**Мінск.** Нацбанк РБ зноў сутыкнуўся з дэфіцытам бягучых рахункаў пасля скарачэння ў лістападзе золатавалютных рэзерваў на 203 млн. $, гэта вядзе да дэвальвацыі нацвалюты.

**Мсціслаўль.** Раніцай пры выездзе з мехдвара калгасны трактарыст наехаў на іншамарку і каўшом трактара забіў чатырох мужчын у салоне "Фольксвагена-гольф".

**Мінск.** На нарадзе па пастаўках мяса ў РФ А. Лукашэнка заявіў, што Расія павяла сябе непрыстойна, яна па паўстагоддзе адстала ад Беларусі ў плане бяспекі тавараў.

**Магілёў.** Ва ўсіх ВНУ вобласці вырашылі стварыць антынаркатычныя дружыны па прадухіленні распаўсюджання сярод моладзі спайсаў і іншай атруты.

**Мінск.** На фоне яўнай стагнацыі Расіі, як папярэдзіў шэф-рэдактар "БелГазеты" Віктар Марціновіч, праз год-два закончыцца і адносны наш беларускі дабрабыт.

**Рудзенск.** Кіраўніцтва Мінскай вобласці згадзілася перадаць горад з насельніцтвам 11 тысяч чалавек пад юрысдыкцыю сталіцы, зрабіць яго горадам-спутнікам Мінска.

**Мінск.** З-за прасеўшага расійскага рынку збыту грузавікоў калектыў МАЗа адпраўяць з 25 снежня на прастой да 12 студзеня, заробкі ўпалі, загружаны толькі цэх аўтобусаў.

**Іванава.** У райцэнтры раніцай п'яны 46-гадовы настаўнік адной са школ раёна збіў на пешаходным пераходзе двух братоў-школьнікаў, яны з траўмамі трапілі ў бальніцу.

**Мінск.** Услед за ксяндзом Лазарам КДБ Беларусі арыштаваў па падазрэнні ў шпіянажы ваеннага аналітыка недзяржаўнай газеты "Беларусы і рынак" Аляксандра Алесіна.

**Пухавічы.** Яшчэ адзін беларус, былы спецназавец 5-й брыгады сіл спецаперацый заявіў, што ваюе на баку баевікоў-сепаратыстаў у Данбасе, дома можа сесці за гэта ў турму.

**Мінск.** "Братэрская" інтэграцыя з Расіяй, як адзначыў палітолаг А. Класкоўскі, стала проста пустым гукам, і ў Беларусі Крэмль можа пайсці на дзеянні " а—ля Крым".

**Мядзель.** На плошчы Шаранговіча ў райцэнтры адкрылі першы ў Беларусі помнік у поўны рост земляку, народнаму паэту Максіму Танку, у Сватькаўскай СШ – яго невялікі музей.

**Гродна.** У 8 км ад горада адкрыўся новы гарналыжны цэнтр з перападам вышыні 40 метраў і даўжынёй трасы 400 м, яго узводзілі 2 гады, патрацілі больш 30 млрд. рублёў.

**Магілёў.** Галоўны трэнер ХК "Магілёў" Юрый Чух паведаміў аб недахопе грошай на харчаванне ігракоў, заробкі ігракоў упалі да 2-х мільёнаў рублёў, у прыбіральшчыц - яны 3 мільёны.

# Памер дзяржпошліны павялічаць на 150-300 тысяч рублёў



■ Андрэй ГАМЫЛЯЕЎ

**Зараз за легкавы аўтамабіль трэба плаціць ад 3 да 10 базавых велічынь у год (для большасці аўтаўладальнікаў пошліна роўная 5 базавых велічынь). Ужо праз тры тыдні практычна для ўсіх падатак на аўтамабілі вырасце на 1-2 базавыя велічыні.**

Разглядалася таксама магчымасць зніжэння дзяржпошліны за допуск аўтамабіляў да ўдзелу ў дарожным руху для таксістаў і юрыдычных асоб, якія займаюцца перавозкай небяспечных грузаў, таму як яны павінны праходзіць тэхнічны агляд свайго аўтамабіля раз на паўгода. Але прапанову адкінулі.

Падатак на аўто знізяць на 50% толькі для пенсіянераў, для ўсіх астатніх ён падвысіцца. Гэта прадугледжана папраўкамі ў Падатковы кодэкс. Рост выплат вырасце прыкладна на 150-300 тысяч беларускіх рублёў. Такі план па прыцягненні фінансаў у бюджэт. Ён быў агучаны падчас абмеркавання праекта закона «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2015 год».

Першапачаткова ў Палаце прадстаўнікоў гаварылі толькі аб ільготах, пра падаражэнне дзяржпошліны маўчалі. Пры гэтым збіраліся прадумаць крытэрыі вызначэння памераў дзяржпошлін, так як не ўсе грамадзяне штодня карыстаюцца сваімі машынамі, а ўносіць транспартны збор прыходзіцца ўсім аднолькава. Мяркуючы па ўсім, крытэрыі прадуманы не былі, сістэма спагнання платы застанецца ранейшай. Па папярэдніх падліках фінансавых ведамстваў, каля 1,6 трыльёна павінна быць сабрана ў краіне па выніках гэтага года ад выплаты так званага транспартнага падатку.

Нельга не заўважыць негатыўнага стаўлення аўтаўладальнікаў да новаўвядзення. Адны не праходзяць тэхагляд з прынцыпу. Іншыя шукаюць хітрыкі, як атрымаць адзнаку аб праходжанні тэхагляду ў абыход афіцыйнай працэдуры, адным з крокаў якой з'яўляецца аплата дзяржпошліны. Самі прадстаўнікі Мінтранса адзначаюць, што кіроўцы сталі часцей праходзіць тэхагляд нелегальна. У час праверак на некаторых машынах знаходзілі «сумнеўныя адзнакі ў сертыфікаце аб праходжанні дзяржтэхагляду». Сцвярджаецца, што ў апошні раз падобныя выпадкі выяўляліся ў 2010 годзе. Нескладана выказаць здагадку, што з павелічэннем памеру дзяржпошліны такіх прэцэдэнтаў стане больш.

Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў у бліжэйшы час плануюць разгледзець праект закона. Традыцыйна закон «Аб рэспубліканскім бюджэце» датуецца 31 снежня кожнага года, публікуецца ў першыя дні студзеня. Такім чынам, дзяржпошліна, калі праект ўхваляць, падаражэе з пачатку новага года.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У рамках дабрачыннай акцыі "Нашы дзеці" на галоўную ёлку Віцебскай вобласці прыедуць 23 снежня каля тысячы школьнікаў, такія акцыі будуць паўсюдна ў раёнах.

**Талачын.** На мясцовы філіял Лепельскага малочнакансервавага камбіната вярнулі 22 тоны малочнай сыварткі, якую забаранілі для ўвозу ў Расію на ветэрынарным пункце ў Бранскай вобласці.

**Полацк.** Услед за рубашкамі на мясцовай фабрыцы "Мона" пачалі на японскім абсталяванні фірмы Juki шыць курткі і штаны для расійскай арміі, паліцыі і служб МНС.

**Мёры.** На мясцовым мясакамбінаце запусцілі сучасную камеру шокавай замарозкі мяса, да канца года запрацуе і найноўшы галандскі халадзільны цэх ёмкасцю 500 тон.

**Дубdroўна.** Следчы камітэт завёў крымінальную справу па факце дрэннага выканання сваіх абавязкаў медыкамі, калі прыйшлося ампутаваць падлетку руку з пераломам.

**Орша.** Першыя 50 тон бісквітных рулетаў з рознымі начынкамі паставіла ў гандлёвую сетку новая беларуская кандытарская фабрыка "Салодкая краіна" з абсталяваннем з ЕС.

**Глыбокае.** Ва ўласным культурным цэнтры адзначыла свой 70-гадовы юбілей адна з буйнейшых гаспадарак краю "Азярцы", яна была самая моцная за савецкім часам.

**Полацк.** Пад раніцу ля вёскі Заазер'е п'яны 21-гадовы вадзіцель не справіўся з кіраваннем іншамаркі, зляцеў у кювет і быў паранены, у ДТЗ загінула 35-гадовая пасажырка.

**Браслаў.** Пасля рэканструкцыі ўрачыста адкрылі поўнасцю камп'ютарызаваную раённую паліклініку, частку сродкаў выдзеліла медыкам краявая дума Даўгаўпілса (Латвія).

**Віцебск.** У цемры раніцай кіроўца на аўтамабілі Rover на высокай хуткасці ўрэзаўся ў слуп ліхтара і загінуў, яго пасажыра з цяжкімі траўмамі змясцілі ў бальніцу.

**Сянно.** У родным Багушэўскім лясгасе пабываў былы галоўны ляснічы, цяпер міністр лясной гаспадаркі Беларусі Міхаіл Амельяновіч, ён правёў і прыём у райцэнтры.

**Віцебск.** Напярэдадні каталіцкіх Каляд і новага года Беларуская чыгунка прызначыла дадатковыя цягнікі міжрэгіянальных ліній і дадатковыя вагоны да Мінска і Магілёва.

**Орша.** Суд пакараў 3 гадамі турмы 33-гадовую вясковую маці 4-х дзяцей і яе сяброўку за спробу адпомсціць шляхам падпалу дома былога сужыцеля, 40-гадовага гараджаніна.

**Паставы.** Вучаніца па класе цымбал дзіцячай школы мастацтваў імя А. Тызенгаўза Ліза Глазава атрымала Гран-пры VI Міжнароднага музычнага конкурсу ў Смаленску.

**Віцебск.** Пасля трохгадовага перапынку ФК "Віцебск" зноў вярнуўся гуляць у мацнейшы футбольны дывізіён, у двух пераходных матчах клуб перамог магілёўскі "Днепр"

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Цяпер расіянам і соль беларуская не падабаецца:
## Расспажыўнагляд выявіў чарговыя парушэнні

Расійская Федэральная служба па наглядзе ў сферы абароны правоў спажыўцоў і дабрабыту чалавека (Расспажыўнагляд) у ходзе планавага кантролю знешніх паставак тавараў у РФ выявіла, што харчовая соль ААТ «Мазырсоль» і ААТ «Белкалій» не адпавядае патрабаванням да харчовай прадукцыі.

Як паведамляе ТАСС, парушэнні таксама выяўлены і ва ўкраінскай прадукцыі ГП «Артемсоль» і ТАА «Славянская соль».

«Парушэнні былі допушчаныя па змесце розных прымешак і ёду, а таксама па арганалептычных паказчыках», - паведамілі ТАСС у Расспажыўнаглядзе.

Расспажыўнагляд даручыў сваім упраўленням ўзмацніць санітарна-каранцінны нагляд за гэтай прадукцыяй у пунктах пропуску праз дзяржаўную мяжу.

Прэтэнзіі расійскіх кантралюючых ведамстваў, нагадаем, раней былі да беларускай мясной прадукцыі.

*пп.dy*




# МНС: Пік пажараў прыпадае на калядныя і навагоднія святы

**У зімовы перыяд значна павялічваецца колькасць пажараў, а пік колькасці пажараў прыпадае на калядныя і навагоднія святы, паведаміў 11 снежня на прэс-канферэнцыі ў Мінску першы намеснік начальніка ўпраўлення нагляду і прафілактыкі МНС Уладзімір Сувораў.**

"Асноўнае павелічэнне адбываецца ад пажараў з-за пячнога ацяплення, парушэнняў правіл абсталявання і эксплуатацыі электраўстановак, неасцярожнага абыходжання з агнём. Людзі вымушаныя карыстацца электранагравальнікамі, печамі і больш знаходзяцца ў памяшканнях", — адзначыў прадстаўнік МНС.

Паводле яго слоў, 65% пажараў з гібеллю людзей таксама адбываецца ў ацяпляльны сезон (з кастрычніка па сакавік).

Сувораў таксама адзначыў, што ў 60% выпадкаў пажараў з гібеллю людзей адбываюцца па віне асоб, якія знаходзяцца ў стане алкагольнага ап'янення. "Гэтыя пажары таксама ў большасці прыпадаюць на зімовы перыяд. Асноўная прычына — курэнне ў пасцелі", — сказаў намеснік начальніка ўпраўлення.

Ён таксама паведаміў, што МНС праводзіць працу па забеспячэнні пажарнай бяспекі пры правядзенні навагодніх і калядных мерапрыемстваў. "Выдадзена распараджэнне МНС, адпрацоўваюцца аб'екты, дзе прадугледжаны масавыя гулянні, прадугледжаны дзяжурствы ратавальнікаў", — сказаў Сувораў.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# "Ноч зніжак" правядзе Белкаапсаюз напярэдадні Новага года

**На нехарчовыя тавары будуць зніжкі да 15%, на харчовыя – да 7%. На асобных пазіцыях зніжкі складуць да 40%.**

Будуць арганізаваныя дэгустацыі кандытарскіх вырабаў, сокаў, безалкагольных напояў.

Гандлёвыя аб'екты спажыўкааперацыі таксама будуць прапаноўваць святочныя зніжкі і бонусы ва ўсіх гарадах і сёлах на працягу ўсяго снежня.

*telegraf.by*




# Міністэрства аховы здароўя Беларусі забараніла павышаць цэны на лякарствы

"Міністэрства аховы здароўя даручае прыняць вычарпальныя меры па недапушчэнні росту адпускных і розничных цэн на лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння і іншыя спажывецкія тавары, улічваючы прыняты ўказ Прэзідэнта Беларусі ад 5 снежня 2014 года нумар 567 "Аб дадатковых мерах па абароне правоў спажыўцоў", - гаворыцца ў паведамленні міністэрства.

У выпадку выяўлення парушэнняў заканадаўства аб фармацэўтычнай дзейнасці і цэнаўтварэнні і завышэння цэн Міністэрства аховы здароўя будзе прымаць самыя строгія меры, аж да закрыцця гандлёвых аб'ектаў.

*БелТА*

# У Талачыне беспрацоўны выкраў 8 каналізацыйных люкаў

10 снежня ва ў Талачынскі РАУС паступіла паведамленне, што ў перыяд з 6 па 10 снежня неўсталяваны злачынец з абочыны дарогі па вуліцы Астроўскага здзейсніў крадзеж 8 каналізацыйных люкаў. Урон склаў 8 900 000 рублёў.

Праваахоўнымі органамі папярэдне ўсталявана, што крадзеж здзейсніў 41-летні беспрацоўны мясцовы жыхар. РАСК узбуджана крымінальная справа па ч. 1 арт. 205 КК.

*ННВ*

# Зязюля перадае эстафету... вушатай саве!

**Абраць птушку года – задача няпростая і адказная. Паўплываць на выбар мог кожны жыхар нашай краіны. Год таму кандыдаты вызначыліся наступным чынам: сваіх пранавалала не толькі Ахова Птушак Бацькаўшчыны (АПБ), але і ўсе жадаючыя шляхам апытанкі на сайце www.ptushki.org. Такім чынам кандыдатамі на Птушку года 2015 сталі: сіняя сініца, сава вушатая, цецярук, баталён.**

Канчатковае рашэнне прымалася з дапамогай галасавання ўдзельнікамі З'езда АПБ у студзені. Калі прыйшоў час падлічваць галасы, сябры Цэнтральнага Савета АПБ пабачылі, што барацьба была нежартоўная – сіняя сініца і сава вушатая набралі амаль аднолькавую колькасць галасоў! З розніцай усяго ў 3 галасы пераможца быў вызначаны, але дагэтуль інфармацыя трымалася ў сакрэце.

На ўрачыстым узнагароджанні пераможцаў конкурсаў кампаніі «Зязюля – птушка 2014 года» мы абвясцілі: сава вушатая – птушка 2015 года ў Беларусі!

Што прынясе на сваіх крылах сава вушатая?

Сумесна з Нацбанкам і Белпоштай плануецца традыцыйны выпуск манеты і маркі з выявай птушкі года. З практычнага – у кожнага жадаючага будзе магчымасць паспрабаваць сваю моц у будоўлі штучных гняздоўяў для вушатай савы падчас летнікаў і майстар-класаў. На працягу года шукайце ў нашых сацсетках адмысловыя віктарыны пра саву.

Для самых маленькіх удзельнікаў кампаніі будуць арганізаваны конкурсы малюнкаў, фотаконкурс вырабаў з прыродных матэрыялаў, вершаў-чатырохрадкоўяў і іншыя цікавосткі!

Сябры клуба АПБ «Рэдкая птушка» патрапяць на сапраўдную савіную экскурсію. З прыродаахоўных мерапрыемстваў адбудзецца пошук месцаў гнездавання вушатай савы, вывешванне штучных гняздоўяў. Рыхтуецца шэраг інфармацыйных матэрыялаў, якія датычацца гэтай птушкі.

Гэта толькі частка таго, што мы збіраемся ажыццявіць у межах кампаніі. Але не будзем адкрываць усе карты адразу.

Палажэнні конкурсаў хутка з'явяцца на нашым сайце, самыя знакавыя падзеі кампаніі будуць своечасова адлюстроўвацца ў сацыяльных сетках. Сачыце за абвесткамі!

Мы ўпэўнены, што будучы савіны год будзе насычаным на цікавыя падзеі і прыродаахоўныя мерапрыемствы. Далучайцеся!




**Даведка АПБ:**

Нацыянальную кампанію "Птушка года" АПБ праводзіць з 2000 г. Галоўная мэта кампаніі – прыцягнуць увагу насельніцтва да хараства прыроды і птушак, што жывуць вакол нас, неабходнасці іх захавання. У мінулыя гады птушкамі года абіраліся белы бусел, белая пліска, авяльга, дамавы верабей, гарадская ластаўка, барадатая кугакаўка, кнігаўка, звычайны салавей, вялікая белая чапля, шэрая гусь, сокал-пустальга, вялікі кулён, чорны свіргуль, удод, зязюля.

# МЗС: Пагадненне аб бязвізавым рэжыме паміж Беларуссю і Ізраілем набудзе моц праз 90 дзён пасля яго ратыфікацыі

**Міністэрства замежных спраў Беларусі нагадвае, што пагадненне паміж Беларуссю і Ізраілем аб адмене віз для ўладальнікаў нацыянальных пашпартоў, падпісанае 19 верасня 2014 года, набудзе моц праз 90 дзён пасля яго ратыфікацыі.**

Як паведаміў на брыфінгу 11 снежня ў Мінску прэс-сакратар МЗС Дзмітрый Міронычк, цяпер бакі ажыццяўляюць унутрыдзяржаўныя працэдуры па ратыфікацыі пагаднення.

У прыватнасці 9 снежня адбылося пасяджэнне пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па міжнародных справах, на якім быў разгледжаны праект адпаведнага закона аб ратыфікацыі. 11 снежня Палата прадстаўнікоў ратыфікавала пагадненне, пасля чаго, паводле слоў Міронычка, законапраект будзе перададзены на разгляд Савета Рэспублікі.

З ізраільскага боку пытанне аб ратыфікацыі пагаднення 9 снежня было разгледжана ў парламенцкай камісіі па ўнутраных справах. Чакаецца, што на працягу тыдня гэта пытанне будзе ўключана ў парадак дня пасяджэння кабінета міністраў, дадаў прэс-сакратар МЗС.

"Пагадненне набудзе моц праз 90 дзён з даты атрымання па дыпламатычных каналах апошняга пісьмовага апавяшчэння, якімі бакі інфармуюць адзін аднаго аб выкананні ўнутрыдзяржаўных працэдур, неабходных для прававамоцнасці пагаднення", — растлумачыў Міронычк.

МЗС Беларусі пасля ўзгаднення з ізраільскім бокам дадаткова паведаміць дакладную дату, калі пагадненне набудзе моц. "Просім улічваць гэтую інфармацыю пры планаванні паездак у Дзяржаву Ізраіль", — сказаў прадстаўнік знешнепалітычнага ведамства.

Як паведаміла 11 снежня, прадстаўляючы дакумент у Палаце прадстаўнікоў, намеснік міністра замежных спраў Алена Купчына, пагадненне можа набыць моц у пачатку красавіка.

*А. Салановіч, БелаПАН.*

# Штраф астудзіць запал «гарачых глыбоцкіх хлопцаў»

**Зіма з'яўляецца адной з найпрыгажэйшых часоў года. З надыходам моцных маразоў жыццё нібы запавольваецца, здаецца, што час нібы спыніўся. Замірае жыццё і ў лесе, звяры ўзмоцнена сілкуюцца і, эканомячы сілы, менш перасоўваюцца. А вось у браканьераў нічога не мяняецца, яны працягваюць рабіць сваю цёмную справу, знішчаючы ўсё жывое. Нават нягледзячы на тое, што асноўная маса звяроў чакае папаўнення.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Штотыдзень ва ўсіх сродках масавай інфармацыі з'яўляюцца артыкулы, нататкі аб учыненых фактах браканьерства на тэрыторыі краіны, пра асоб, што іх учынілі, і пакараннях, вынесеных судамі за ўчыненыя злачынствы, тэлеперадача Зона «Х» сістэматычна асвятляе самыя свежыя факты парушэння прыродаахоўнага заканадаўства. Стаўленне грамадзян да парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства прыкметна змянілася, грамадзяне нашмат радзей яго парушаюць і часцей звяртаюцца ў прыродаахоўныя органы, паведамляючы пра факты браканьерства і парушэнні.

Але яшчэ не рэдкія выпадкі браканьерства, забойства дзеля мяса, нягледзячы на тое, што паляванне без спецыяльнага дазволу на здабычу дзікай жывёлы забаронена. Свядомасць такіх людзей застаецца на ўзроўні найпростых мікраарганізмаў, інстынкт самазахавання адсутнічае цалкам. Ваўкі забіваюць дзікіх жывёл дзеля харчавання, у прыродзе выжывае наймацнейшы. Кожнае жывёла з'яўляецца маленькім звяном у ланцужку харчавання, але калі людзі, далёка не самыя галодныя, дзеля кавалка мяса гатовыя ісці на злачынства, гэта ўжо бязмежжа.

Так, 12 снежня гэтага года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры правядзенні рэйдавых мерапрыемстваў на тэрыторыі Пастаўскага раёна, паблізу в. Піскуны затрыманы жыхар Пастаўскага раёна, які незаконна, без належнага на тое дазволу, здабыў адну асобіну казулі еўрапейскай. Затрымалі парушальніка прама на месцы ўчынення правапарушэння, туша казулі і зброя канфіскавана, матэрыялы перададзеныя ў праваахоўныя органы Пастаўскага раёна, шкода, нанесеная прыродзе, склала 18 млн. рублёў. Цяпер грамадзяніна чакае пакаранне ў выглядзе штрафу альбо пазбаўленне волі да 3 гадоў, з пазбаўленнем спецыяльнага права.

Шмат пішацца пра забруджванне вадаёмаў, асабліва гэта праблема актуальна ў зімовы перыяд. Рыбакі выкідваюць на лядовае пакрыццё ўсё, што толькі можна, пачкі ад цыгарэт, недакуркі, пустыя бутэлькі ад спіртных напояў, утвараючы цэлыя звалкі. Так, 8 снежня работнікамі міжраённай інспекцыі і Глыбоцкага аддзела Дэпартамента ахова на возеры Кагальным у г. Глыбокае затрыманыя двое жыхароў горада, якія ўчынілі п'янку на лёдзе, дзе і выкінулі пустыя бутэлькі. Абодва затрыманыя пакараныя за забруджванне вадаёма, а таксама за распіццё спіртных напояў у недазволеным месцы. Штраф у памеры 3 базавых велічынь (450 тысяч) астудзіць запал «гарачых глыбоцкіх хлопцаў». Жадаючых яшчэ заплаціць штраф за смецце, запрашаем у госці, праца па «смецярамі» будзе ўзмоцненая.

**Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету просіць усіх грамадзян паведамляць пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства на тэлефоны «гарачай лініі» кругласутачна: 8-02156- 2-86-70, 2-80-30, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**



# У вёсцы Удзела асвяцілі помнік ненароджаным дзецям

**Скульптурную кампазіцыю асвяціў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.**

■ **Зміцер Лупач**

Гэта адбылося ў нядзелю 7 снежня падчас візітацыі біскупа ў вёску Удзела, падчас якой ён удзяліў сакрамант канфірмацыі (бежмавання) некалькі дзясяткам вернікаў парафіі.

У сваім слове да вернікаў біскуп падзякаваў вернікам старэйшага пакалення за тое, што змаглі захаваць веру, а таксама будынак касцёла ад канчатковага разбурэння. Ён узгадаў добрым словам дзейнасць ксяндза Юозаса Булькі, дзякуючы працы якога святыня змагла адрадзіцца. Таксама кіраўнік Касцёла на Віцебшчыне адзначыў той станоўчы факт, што ў касцёле прысутнічае шмат мужчын і моладзі, што, на жаль, яшчэ не часта можна ўбачыць у нашай краіне.

Напрыканцы Імшы адбылося асвячэнне помніка ненароджаным дзецям.

Скульптурная кампазіцыя ўсталяваная каля касцёла. У яе ўваходзіць выява Маці Божай, якая абдымае часткі цела ненароджаных дзяцей, а таксама крыж з распятым Хрыстом, які ўсталяваны на скале. Побач знаходзіцца камень з памятнай шыльдай.

Падчас асвячэння віцебскі іерарх нагадаў прысутным словы папы Яна Паўла II, што не мае будучыні той народ, які забівае сваіх дзяцей.

# У Лепелі ідзе суд над злодзеямі, якія абкрадалі вясковыя дамы

**У Лепелі праходзіць суд над злодзеямі, якія дзейнічалі на тэрыторыі Глыбоцкага, Ушацкага і Мёрскага раёнаў. Яны ўзломвалі дамы вяскоўцаў і дачнікаў, адкуль выносілі ўсё, што ўяўляла хоць нейкую матэрыяльную каштоўнасць.**

■ **Зміцер Лупач**

Па справе праходзяць як пацярпелыя 19 чалавек. Агульная сума шкоды, якая была агучана дзяржаўным абвінаваўцам, больш за 280 мільёнаў беларускіх рублёў. Толькі зачытванне пераліку ўкрадзенага заняло амаль гадзіну. Дарэчы, абвінавачаныя Уладзімір Ц. і Вячаслаў Я. паўсталі перад судом за падобнае злачынства ўжо не першы раз.

Пацярпелыя хочуць спагнаць са злодзеяў не толькі матэрыяльную, але і маральную шкоду.

*– Суму, якую я прад'яўляю да зыску, складае каля 90 млн. рублёў. Гэта справядліва. Няхай вернуць тое, што ўзялі, і кампенсуюць маральныя і фізічныя пакуты. Я не магу працягваць займацца сваёй любімай справай, не магу дабудоўваць свой дом,* – заявіў адзін з пацярпелых, у якога злодзеі вынеслі на 70 мільёнаў рублёў матэрыяльных каштоўнасцей.

Суд будзе доўжыцца некалькі дзён, магчыма, што прысуд будзе аб'яўлены толькі ў пачатку наступнага года. Справа атрымала шырокі рэзананс у грамадстве, пра вынікі суда мы праінфармуем нашых чытачоў.

## А тым часам...

# На Гомельшчыне злавілі на браканьерстве начальнікаў прыродаахоўнай інспекцыі

**Новая гучная «паляўнічая справа» раскрыта на Гомельшчыне. У дачыненні да дзясятка паляўнічых, сярод якіх – службовыя асобы шэрагу структур, будуць прыняты адпаведныя меры. Шкода, нанесеная дзікай прыродзе, складае каля 400 мільёнаў рублёў – з разліку 135 мільёнаў за кожнага забітага лася. Удзельнікам незаконнага палявання пагражае да 4 гадоў пазбаўлення волі.**

Дзяржаўная інспекцыя па ахове жывёльнага і расліннага свету афіцыйна апублікавала інфармацыю пра аргвысновы, зробленыя на ўчарашняй калегіі ведамства. А менавіта – аб звальненні намесніка начальніка Гомельскай абласной інспекцыі, паніжэнні на пасадзе начальніка Гомельскай міжраённай інспекцыі, а таксама прыцягненні да дысцыплінарнай адказнасці начальніка Кармянскай міжраённай інспекцыі і начальніка аператыўна-аналітычнага аддзела Гомельскай абласной інспекцыі.

Аналагічныя меры будуць прыняты і да непасрэдных удзельнікаў браканьерскага промыслу, якія сталі фігурантамі крымінальнай справы. Свайго роду дэтанатарам такіх жорсткіх рашэнняў кіраўніцтва прыродаахоўнага ведамства, як высветлілася, было затрыманне аператыўнікамі Камітэта дзяржбяспекі ў Кармянскім раёне групы з больш чым 10 паляўнічых, сярод якіх былі два прадстаўнікі кіраўніцтва Гомельскай абласной і міжраённай інспекцый аховы жывёльнага і расліннага свету, а таксама супрацоўнікі праваахоўных структур і іншыя службовыя асобы.

Частка з іх як раз і была закліканая нястомна ахоўваць прыродныя багацці і строга трымацца законаў прыродааховы. Людзі з паляўнічай зброяй, па папярэдніх звестках, мелі першапачаткова высакародны намер займацца ў лясных угоддзях адстрэлам дзікоў, прыняўшы асноўнымі пераносчыкамі віруса афрыканскай чумы свіней. Аднак падчас палявання яны пераступілі дазволенае: на ахоўнай тэрыторыі радыеактыўнага забруджвання здабылі не менш за трох ласёў.

У апошні час кіраўніцтвам Дзяржаўнай інспекцыі неаднаразова адзначаліся недахопы ў кіраўнічай дзейнасці абласной інспекцыі прыродааховы. Па выніках нядаўняй праверкі за сур'ёзныя хібы былі зняты з пасады начальнік абласной інспекцыі. Падобна на тое, пра што сведчыць апошняе затрыманне браканьераў «пры пасадах», новаму кіраўніку не хапіла часу для нармалізацыі становішча ў прыродаахоўнай гаспадарцы рэгіёну.

Цяперашнія паляўнічыя падзеі ў зоне радыеактыўнага забруджвання, мяркуючы па ўсім, будуць не менш рэзанансным за папярэднія гучныя паляўнічыя скандалы ў Жлобінскім раёне ў 2009 годзе і пачатку гэтага года, фігурантамі якога сталі высокапастаўленыя прадстаўнікі органаў улады, міліцэйскіх структур і кіраўнікі буйных прадпрыемстваў Жлобіншчыны.

*sb.by*

# Лукашэнка загадаў зрабіць назвы калгасаў больш зразумелымі

**Аляксандр Лукашэнка даручыў аптымізаваць структуры арганізацый. Такую задачу ён паставіў 15 снежня ў час прыняцця кадравых рашэнняў.**

Звяртаючыся да прадстаўнікоў мясцовай вертыкалі ўлады, Лукашэнка падкрэсліў: «Спецыяльна звяртаю на гэта ўвагу, каб мы нарэшце парадак навялі ва ўсіх сферах і галінах, а не чакалі нейкіх дадатковых указанняў. Усё павінна быць проста і зразумела».

«Мы вельмі захапіліся ў свой час яшчэ пры распадзе Савецкага Саюза і пабеглі за імпартнымі назвамі: холдынгі і іншае. У нас былі вытворчыя аб'яднанні, гэта тыя ж холдынгі, і так разумею? Навошта іх было пераймаючоўваць?! А цяпер з'явіліся холдынгі, вытворчыя аб'яднанні, яшчэ штосьці там… Усё павінна быць проста і зразумела як у сельскай гаспадарцы, так і ў прамысловасці», – сказаў кіраўнік дзяржавы.

«У нас таксама ў сельскай гаспадарцы было ўсё проста і зразумела: калгас, саўгас – усё. Цяпер там чорт нагу зломіць! Усё гэта трэба прыводзіць у нармальны зразумелы стан да пачатку новай пяцігодкі. Я ужо не кажу пра назвы. За назву таго ж калгаса, прадпрыемства барацьба ішла ў краіне. На вышэйшым палітычным узроўні прымаліся рашэнні. Цяпер старшыня калгаса захацеў абазваць яго мацерным словам – абзаве, і ўсё будзе нармальна», – адзначыў Лукашэнка.

«Займіцеся неадкладна з урадам гэтымі пытаннямі. Усё павінна быць проста і зразумела для людзей. І галоўнае – даходліва», – падкрэсліў ён.

*БелТА*

# Правілы электрабяспекі ў зімовы перыяд

**Глыбоцкі раён электрычных сетак нагадвае пра неабходнасць строгага выканання грамадзянамі правілаў электра- і пажарабяспекі ў зімовы перыяд.**

На працягу апошніх гадоў у раёне прасочваецца тэндэнцыя павелічэння пажараў у жылым сектары ў зімовы перыяд. У гэтыя месяцы ўзнікае вялікая колькасць пажараў, а колькасць загінулых людзей складае каля 80% ад агульнай колькасці ахвяр агню. Значная частка пажараў у зімовы перыяд адбываецца з-за самаробных электраабагравальнікаў і няспраўных элементаў ілюмінацыі (электрагірлянды і г.д.). Нават калі электрапрыбор адказвае ўсім патрабаванням пажарнай бяспекі, пакідаць яго без нагляду уключаным у сетку нельга. Час ад часу электрапрыборы неабходна аглядаць. Калі прыбор няспраўны, яго трэба неадкладна выключыць і аддаць у рамонт. Тое ж самае тычыцца разетак, выключальнікаў і штэпсельных раздымаў.

**Нагадваем асноўныя правілы эксплуатацыі электраабсталявання:**

- усе электрапрыборы ў кватэры павінны быць спраўныя і ўстаноўлены дакладна ў адпаведнасці з тэхнічнымі патрабаваннямі;
- калі вымаеце вілку з разеткі, не цягніце за шнур: ён можа абарвацца і агаліць дрот, які знаходзіцца пад напружаннем; адной рукой прытрымлівайце разетку, а другой трымайце вілку;
- калі вілка прыбора зламаная, не спрабуйце яе рамантаваць, а адразу замяніце;
- не пакідайце ўключаным прыбор без нагляду;
- не ўключайце некалькі прыбораў у адну разетку адначасова: можа адбыцца кароткае замыканне і пажар;
- агаленыя правады трэба неадкладна рамантаваць;
- пры выяўленні няспраўнасці ў ілюмінацыі (нагрэў правадоў, мігценне лямпачак, іскрэнне ў злучэннях правадоў і да т.п.), неадкладна абясточце электрагірлянды і прыбярыце з ёлкі.

**Паважаныя бацькі!**

З мэтай прафілактыкі і папярэджання няшчасных выпадкаў у сувязі з пачаткам зімы правядзіце прафілактычныя гутаркі з дзецьмі па асновах электрабяспекі падчас знаходжання дзяцей на вуліцы, карыстанні электранагравальнымі прыборамі і электрагірляндамі. Памятаеце, што ад своечасовасці і якасці правядзення растлумачальнай працы ў значнай ступені залежыць жыццё і здароўе вашых дзяцей!

Штогод у сувязі з неспрыяльнымі ўмовамі надвор'я, снегападамі і маразамі, пачашчаюцца выпадкі гібелі грамадзян, у выніку пашкоджання ліній электраперадач (ЛЭП), абрыву электраправадаў пад напружаннем.

Пры выяўленні пашкоджання ЛЭП (пашкоджаных ізалятараў і апор, абрыву правадоў і г.д.) не набліжайцеся самі і прадухіліце набліжэнне іншых на адлегласць менш за 8 метраў. Паведаміце аб пашкоджанні дзяжурным службам Глыбоцкага РЭС па тэлефонах: 2-62-41, 144.



## Энерганагляд інфармуе:

# Як правільна выбраць навагоднія гірлянды



**Набліжаюцца навагоднія святы. На прадпрыемствах, у крамах, у дамах культуры, у дзіцячых садках і школах адбываецца падлучэнне навагодніх ёлак і ёлачных гірляндаў, фасады грамадскіх будынкаў, вітрыны крам і вокны жылых дамоў пачынаюць ззяць рознакаляровымі агнямі.**

**А.С. Крывёнак,**
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

Новы год – самае запальнае свята ў годзе, і не толькі па ўзроўні весялосці, але і па колькасці пажараў, якія здараюцца ў гэтыя дні. Гірлянды гараць, як свечкі, прычым разам з ёлкай. А ваша гірлянда – бяспечная? Ці не атрымаецца так, што ў самы адказны момант ваша ёлачка не «запаліцца», а загарыцца?

**Энерганагляд папярэджвае:**

Гірлянда – электрапрыбор, які мае паслядоўнае падлучэнне лямпачак, шнур і вілку. Паміж лямпачкамі і вілкай павінен быць убудаваны адаптар, які паніжае напружанне ў ланцугу да бяспечна малога.

Выбар гірлянды трэба пачынаць не з вонкавага выгляду, а з чытання інфармацыі на ўпакоўцы. На ёй пазначаны фірма-вытворца, назва вырабу і яго прызначэнне. А прызначэнне ў гірлянд бывае рознае: адны ўпрыгожваюць унутраны інтэр'ер, іншыя выкарыстоўваюцца на вуліцы, трэція мантуюцца на навагоднюю ёлку.

Ад прызначэння залежыць магутнасць спажывання энергіі. Гірлянда для ёлкі не павінна па магутнасці перавышаць 50 Ват – гэтая лічба павінна быць пазначана на спецыяльным ярлычку на шнуры каля вілкі, на якім таксама паказваецца тып гірлянды, фірма-вытворца, напружанне сілкавання, агульная магутнасць гірлянды і тып лямпачак).

Провад гірлянды павінен мець сячэнне токаправодных жылаў не менш за 0,5 мм і тоўстую гнуткую ізаляцыю. Адлегласць ад апошняй лямпачкі ў сетцы да вілкі павінна быць не менш за 1,5 м. Гэта патрэбна для таго, каб у выпадку, калі пачне гарэць шнур, паспець выратаваць саму ёлку ад узгарання! У камплекце абавязкова павінны быць запасныя лямпачкі. Калі ў ланцугу больш за 18 штук – запасных павінна быць як мінімум тры, калі менш – то дзве. І напружанне з магутнасцю ў запасных лямпачак павінна быць тымі ж, што і ў асноўных.

Абавязкова азнаёмцеся з сертыфікатам адпаведнасці якасці тавару. Яго вам абавязаны прад'явіць прадавец па першым патрабаванні. Уся інфармацыя ў сертыфікаце павінна адпавядаць інфармацыі на цэтліку гірлянды. Калі ў гірлянды маецца прылада, што кіруе рэжымамі мігцення і музыкі, шукайце ў сертыфікаце спасылку на пратакол па электрамагнітнай сумяшчальнасці. Абавязкова праверце месцы злучэння кампанентаў гірлянды: злучэнне блока з правадамі, захаванасць ізаляцыі, надзейнасць гнёздаў і вілкі. Уключыце і праверце гірлянду на ўсіх рэжымах адразу ў краме, а дома, з марозу, не спяшайцеся падключаць яе – дайце гірляндзе сагрэцца.

У навагоднюю ноч старайцеся не пакідаць гірлянду без нагляду. Хоць яе рэсурс – каля 100 гадзін, але ад перападаў напружання ў сетцы, аплаўлення ізаляцыі і ўзгарання нагрэтай папяровай мішуры ад лямпачак ніхто не застрахаваны.

Асабістая пільнасць і выкананне элементарных правілаў электрабяспекі гарантуюць захаванне святочнага настрою!

**Глыбоцкае МРА філіяла «Энерганагляд» віншуе Вас з надыходзячымі Калядамі і Новым Годам, жадае ўсім цудоўнага настрою, моцнага здароўя і здзяйснення ўсіх жаданняў!**

# Веданне і выкананне правілаў – гарантыя бяспекі пры эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак

**Абслугоўванне цеплаўстановак звязана з пэўнымі цяжкасцямі і небяспекамі. Парадак эксплуатацыі, абслугоўвання і рамонту цяпловыкарыстальных установак і цеплавых сетак вызначаны ТКП 458-2012 «Правілы тэхнічнай эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак спажыўцоў» і ТКП 459-2012 «Правілы тэхнікі бяспекі пры іх эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак спажыўцоў». Дзяржаўны энергетычны нагляд нагадвае асноўныя правілы, выкананне якіх ляжыць у аснове прамысловай бяспекі.**

**А. Ю. Рацьковіч,**
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

Эксплуатацыю цеплавых сетак павінен ажыццяўляць падрыхтаваны персанал. Спецыялісты павінны мець адукацыю, якая адпавядае іх пасадзе, а рабочыя – адпаведную прафесійную падрыхтоўку, у тым ліку па пытаннях аховы працы. Асобы, якія прымаюцца на работу па абслугоўванні цяпловыкарыстальных установак і цеплавых сетак, павінны прайсці папярэдні медыцынскі агляд і ў далейшым праходзіць яго перыядычна ў тэрміны, установленыя для персаналу арганізацыі ў адпаведнасці з Інструкцыяй аб парадку правядзення абавязковых медыцынскіх аглядаў працуючых. Перад допускам да самастойнай працы персанал павінен прайсці навучанне, стажыроўку, інструктаж і праверку ведаў па пытаннях аховы працы. Раз у год аператыўны, аператыўна-рамонтны і рамонтны персанал павінен праходзіць перыядычную праверку ведаў у аб'ёме патрабаванняў ТКП 458-2012 «Правілы тэхнічнай эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак спажыўцоў», ТКП 459-2012 «Правілы тэхнікі бяспекі пры іх эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак спажыўцоў» і іншых нарматыўна-прававых актаў, выкананне якіх уваходзіць у іх абавязкі.

Персанал, які абслугоўвае цеплавыя сеткі, павінен быць забяспечаны па дзеючых нормах сродкамі індывідуальнай абароны і абавязаны правільна іх выкарыстоўваць падчас вытворчасці прац.

Працы на цеплавыкарыстальных установках і цеплавых сетках праводзяцца па пісьмовых нарад-допусках, вусных або пісьмовых распараджэннях. Пералік работ, што выконваюцца па нарадах, вызначаны ТКП 459-2012 «Правілы тэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак спажыўцоў» і ўключае 13 відаў работ. Аднак з улікам мясцовых умоў па нарадах могуць выконвацца і іншыя работы, пералік якіх зацвярджаецца кіраўніком арганізацыі. Працы, для выканання якіх не патрабуецца правядзенне тэхнічных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы працоўных месцаў, могуць выконвацца па распараджэнні. Пералік такіх работ таксама зацвярджаецца кіраўніком арганізацыі.

Такім чынам: дакладнае выкананне правілаў; своечасовае і якаснае навучанне персаналу; правядзенне перыядычных і мэтавых інструктажоў; арганізацыя супрацьаварыйных трэніровак дазволіць персаналу набыць навыкі па бяспечнай эксплуатацыі і ліквідацыі парушэнняў рэжыму працы цяпловыкарыстальных установак і цеплавых сетак. А, самае галоўнае, пазбегнуць няшчасных выпадкаў і траўмаў.

## Віншаванкі

### Змітра Лупача

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Зычым мы ў Дзень нараджэння
Поспехаў гучных, удач і натхнення.
Шчыра жадаем здароўя і шчасця,
Каб не было ні няўдач, ні напасцяў.
Жадаем, каб шчасце табе ўсміхалася,
А мара любая адночы здзяйснялася.
Вяселле, і радасць, і добры настрой
Хай крочаць заўсёды з табой!



*Калектыў "ВГ".*

## МНС інфармуе

**на 16.12.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1027;
Гібель людзей – 110, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 32;
Гібель людзей – 3, з іх дзяцей няма;
Урон –788.87 млн. руб.

